*Анатоль Іверс*

# Я ПАЙШОЎ БЫ ЎСЛЕД ЗА ЛЕТАМ...

*Вершы*



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

* * *

У цьмяным полымі лучын
Перапаліўся дзень апошні,
Калі снапы я палічыў
На залатой аўсянай пожні.

— Ты не паказвайся ў сяле,—
Параіў мне сусед Яўхута,—
А проста з поля шпар у лес
Ды абыдзі прылесны хутар...

Назаўтра бацька на плячах
Насіў авёс той залацісты.
Каб выліў горыч, што ў вачах,
То б спапяліла ўсіх фашыстаў.

*1943*

## КРЫХУ ШЧАСЦЯ ТРЭБА МЕЦЬ

Не мінаю засень бору,
Калі верас зацвіце.
Іменна ў такую пору
Я спяшаўся ў гэты цень.

Выбівалася крыніца
З-пад жвіровае гары.
І не мог я надзівіцца:
За ракой зара гарыць.

З утравелае лагчыны
Паказаўся стройны лось.
Адляталі аблачыны
За далёкае сяло...

Здэцца міг, а ўжо вярста ўся.
І куды ісці цяпер?
Спакваля спакой вяртаўся,
Бы ў бярлогу дзікі звер.

Каб пазбегнуць эшафота,
Крыху шчасця трэба мець.
Зразумеў я гэта потым,
Як звінела соснаў медзь.

Хай шалее немец Вернер,
Што разведчык знік, як дым.
Як вам логава развернем,
Там шукай мае сляды.

*1943*

## ТЫ ПРА СЭРЦА КАЗАЛА

Ты пра сэрца казала,
Што згубіла вясной
За далёкім вакзалам
На сцяжынцы лясной.

Шмат прайшоў я сцяжынак,
Дзе цвілі верасы,
Даспявала ажына,
Чуўся шэлест асін.

А калі ляжаў ніцма
Пры шырокай Дзвіне,
Пахла мёдам суніца
І званочак звінеў.

Потым з водарам жыта
Цёплы вецер ажыў...
Ну прыйдзі, прыбяжы ты,
Жар вачэй пакажы.

І хоць сёння на золку
Верасы адцвілі,
Ты пачуеш: пад елкай
Б'ецца сэрца зямлі.

*1961*

## РАЗЫШЛІСЯ ШЛЯХІ

Адыходзіла восень ў нябыт,
Дрэвы галавы долу хілілі.
І суровае «быць ці не быць?»
Вырашалі хвіліны.

Небяспека вісела даўно,
Ды трымалі мы пост, як зенітку.
Абарвалася дзесьці звяно,
І эсдоўцы схапілі за «нітку».

Невялікі пакінуўшы скарб,
Падаліся ў палі ад Падгорнай.
Слонім сэрца ніяк не пускаў,
Потым сніўся любімы мой горад.

З пекла вырваўся я. І яна.
Ды шляхі разышліся навечна.
Катам трапіла ў лапы адна,
Не прыйшла на ўрачыстае веча.

Перажыў я нямала пакут
У баях, на свабодзе — таксама.
І цяпер успаміны пякуць,
Бы па сэрцы хтось б'е каласамі.

Як палёгку, шукаў я віну —
Не знайшоў і слядоў на гасцінцы.
Вось ідзе... Не яна... Праміну.
Агляну́ся — ў той самай хусцінцы.

*1944*

## ГЛЯДЖУ НА ЛЕС

*Памяці жонкі,*
*замучанай фашыстамі*

Далёкі лес — зялёны грэбень,
І пасмы хмарак залатых
На ранішнім прыгожым небе,—
І ўсё глядзіш на золак ты.

Такою я цябе запомніў,
Такою ты тады была.
Нібы сама з тых яркіх промняў
Сягоння да мяне прыйшла.

А я стаю ўсё на паверцы
Як верны друг твой, як салдат.
Заўжды ў маім збалелым сэрцы
Гарыць агонь падзей і дат.

*1949*

## ПАРТЫЗАНСКІЯ ПРАСТОРЫ

Прад вачыма, нібы з казкі,—
Невялікі наш будан.
Колькі ён суровай ласкі
Мне на памяць перадаў.

Помню жудасныя ночы,
У агні пушчанскі шлях.
А мне снілася, што крочыш
Ты са мною па лясах.

Ўсе дарогі навакола
Я гатоў ізноў прайсці,
Каб пачуць твой звонкі голас
Там, дзе лісце шалясціць.

Многа сіл дала Радзіма,
Каб змагацца і любіць.
Тыя ж сосны —
прад вачыма,
І ніяк іх не забыць.

*1957*

## РАСЦВІТАЕ Ў ВЕСЦЫ БЭЗ

Расцвітае ў вёсцы бэз,
Мы ж яго не бачым.
Жыць не можам толькі без,
Без начной удачы.

На чыгунцы — ціўшыня:
Дзесь пратрухаў вожык.
Праляжым, відаць, да дня,
Да паўночы, можа.

Салавей заводзіць трэль
У кустах крушыны.
Ды ўспамінаў не затрэ:
Гарнізон скрышылі!

А тым часам нарастаў
Стук з-пад Азярніцы.
Цяжкавагавы састаў
Вырастае быццам.

Параўняўся з намі — ўверх
Паравоз падскочыў.
І такі быў феерверк —
Асляпіла вочы.

Смутак сэрца не скрабе,
Бо была удача.
Расцвітае ў вёсцы бэз —
Мы яго не бачым.

*1944*

## ЖЫТНІ КОЛАС

Запаветны, мілы кут,
Лес шуміць наўкола.
І адкуль з'явіўся тут,
Вырас жытні колас?

Пэўна, летась незнарок
Хтось пасеяў зерне.
І спыняю я свой крок:
Патапчу — не вернеш.

Толькі думак не спыніць —
На шырокай ніве,
Там, дзе жаўранак звініць,
Ходзіць полем жнівень.

Ну і я туды прыйду
Мо наступным летам.
Збрыю вусы, бараду:
— Добры дзень, палетак!

*1944*

## САЛАЎІНЫЯ НОЧЫ

Пераліўна звіняць, як рака,
Салаўіныя ночы.
Маці гладзіць мяне, хлапчука:
«Ўстань, паслухай, сыночак».

Новы май па краіне ішоў
З прабуджэннем і гулам.
Салаўі... Слухаў сэрцам, душой:
Маладосць прамільгнула.

Не забыць, хоць было і даўно,
Не агонь з мінамётаў,
А вясновую срэбную ноч,
Перасвіст над балотам.

Мы на Шчару спускалі чаўны,
Нас таўклі, як цапамі.
Ды не выбухі мін, а яны —
Салаўі будзяць памяць.

*1944*

## ПАРОЛЬ

— Пароль?
— Лясная сцежка.
— Напрамак?
— Добры Бор.
Прыветлівая ўсмешка,
Настоены чабор.

Убок сышла, направа,
А я
        стаю чагось.
Апроч ваеннай справы
Ў мяне і сэрца ёсць.

І кожны раз на ўзлессе
Бяру з сабой пароль.
Птушыных столькі песень
Вясенняю парой!

Былі баі,
Сустрэчы,
І патэфонны вальс,
І многа светлых рэчак...
Трансваль мая,
Трансваль...

*1962*

## У БЯЗЛІСТЫМ ЛАЗНЯКУ

Гасцінец — справа, немцы ў вёсцы,
Рака — па левую руку.
Мы на той вузенькай палосцы
Ляжым ў бязлістым лазняку.

Праймае цела холад люты,
Ды не паднімеш галавы,
Бо па гасцінцы штомінуты —
То пешы фрыц, то верхавы.

Такую днёўку будзеш помніць,
Пакуль на свеце будзеш жыць.
Пашлі нам, сонца, свае промні!..
А Шчара булькае, бяжыць.

Пераплылі рубеж блакадны,
І раптам — тут другі рубеж.
О, лепш у бой, на барыкады,
Пакуль не сцапалі цябе.

Імкнуцца думкі ў свет дзівосны —
Няма ім межаў на зямлі.
Параскідаў я свае вёсны
І толькі сэрца зазямліў.

*1944*

## ПАРТЫЗАНЫ-КАМСАМОЛЬЦЫ

Пад сховамі чорнае ночы,
У праблісках яснага дня
Яны, непахісныя, крочаць,—
І я пазнаю арлянят

Па тым, як ляцяць пад адхоны
Захопніцкія паязды,
Як ворагаў у гарнізонах
Ахутвае полымя-дым.

Галоўная прыйдзе расплата,
Падлічым затрачаны час.
Збудуем і школы і хаты,
Запалім агні Ільіча.

А сёння пад сховамі ночы,
У праблісках яснага дня
Яны, непахісныя, крочаць,—
І я пазнаю арлянят.

*1943*

## АГАНЁК

Хата схілена, забыта
У шуме палыну.
Запрацованы здабытак
Вораг праглынуў.

І за лесам, і за садам,
На глухой шашы
Партызанская засада —
Не мінеш, фашыст!

А як лёгкі стук у дзверы —
Гасне агапёк.
Хоць не бачыць, але верыць,
Хто ідзе здалёк.

Аганёк у цьмянай шыбе...
І шляхі, шляхі...
Беларускі край — пагібель
Ворагам ліхім.

*1943*

## ВЫЙШЛІ З БОЮ

На світанні выйшлі з бою —
Шчасце у жыцці.
Па дарозе мне з табою
Весялей ісці.

Тут і свіст птушыны чуем —
Песні салаўя.
Разам з сонцам заначуем
Ў лесе ты і я.

Што стаміліся — не важна.
Добра, што жывём.
Мсціўцаў гордых і адважных
Фрыц не ўзяў жыўцом...

Танкі ўліплі у балота,—
Мы ж прайшлі яго.
Фрыц пакінуў там і боты,
Зведаўшы агонь.

Ў нас дарога не прамая —
Праз гушчар лясны.
Елка кожная прымае:
Адпачні, засні.

Мы ж знаёмыя, вядома,
Пасвілі кароў.
І у лесе мы, як дома,
Толькі будзь здароў.

Дзе змаганне, дзе каханне —
Не знайсці граніц.
Пакуль сонца зноў прагляне,
Валімся мы ніц.

*1944*

## ЗАЦІШША

Бывае такое зацішша
Ў прыродзе і нашым жыцці,
Што вецер сасну не калыша,
Нікуды не трэба ісці.

Усё я тады прыкмячаю:
У ельнік як дрозд паляцеў,
Паляна цвіце малачаем
І сінім званочкам цвіце,

І хмары, як снежныя горы,
І горы, як хмарная ніць...
Баяна чувацъ пераборы,
Прыглушаны гром навальніц.

*1944*

## ТЫ СТАЛА ПЕСНЯЮ

Сцяжынкай вузкаю
Між каласоў ішла,
Чырвонай блузкаю
Паказвала мне шлях.
Калі баразнамі
Я на жалезку йшоў,
Начамі грознымі
Ў вачах ірдзеў той шоўк.
За радасць веснюю
Не грэх згарэць душой...
Ты ж стала песняю —
З ёй не прапаў, дайшоў.

*1962*

## ДАПІШУ, ЯК ВЯРНУСЯ

Я пішу свае вершы
На каленях,
пішу і на пні.
А пакуль не завершым
Барацьбу,
усе сілы напні!

Вось агрызак алоўка
І той верш,
як патрон,— у кішэнь,
Бо дзесятка-вінтоўка
Хутка возьме
на мушку мішэнь.

Дапішу, як вярнуся
Да сваёй,
партызанскай радні.
Мо прысніцца Дануся,
Родны дом
і бясхмарныя дні.

*1944*



Пах чаромхі ўрываецца ў сені —
То вясны гаркаватая плынь.
І здаецца, што ходзіць Ясенін
І збівае нагамі палын.

Мне б хоць раз пабываць у Разані,
У надрэчных прасторах балот!
Я ў лясах ля Ружан партызаніў,
Каб заўжды яго слова жыло.

*1957*

## Я ВЫЙДУ Ў ПОЛЕ РАНА

Агнём сплываюць раны
З маёй душы сягоння...
Я выйду ў поле рана,
Дзе ветры хмары гоняць.

Другі раз восень лістам
Асыпала загоны...
Я помню, як калісь там
Жыццё звaніла звонам.

Я помню... Ўсё мінула.
Ды вернецца, напэўна,
Ізноў вясёлым гулам
І песняй званкаспеўнай!

Бо мы ідзём няўхільна
У бітвы агнявыя.
Над прорваю магільнай
Хай вораг дзіка вые.

*1942*

## ЧАСТУШКІ

Я з гранатаю адзін,
А фашысты з танкамі.
Хто прайграе — паглядзім
Ранкамі-світанкамі.

Як пад гусеніцу бах —
Танк ваўчком закруціцца.
Люк адкрыеш — па зубах,
У вачах памуціцца.

Працавіты наш народ,
У баях напорысты.
Будзеш лезці ў агарод —
На ражон напорашся.

Не шукай пакорных тут,
Тут не раскапусцішся.
Крыкнеш: «Гітлеру капут!» —
Ды і сам скапуцішся.

*1944*

## БЕЛАНОЖКА

Ля бярозкі, як заўсёды,
На заданне я іду.
Шасціць лісцем лёгкі подых,
Што сказаць ёй на хаду?

Развітацца не хачу я,
Бо вярнуся — будзе днець.
Ды і думак не пачуе,
Што схаваныя на дне.

Так я думаю сур'ёзна,
А на сэрцы — неспакой:
Шчасце ходзіць па барознах,
Здагадайся — па якой...

Ветрык дзьме — галінкі гнуцца,
Беланожка ўсё стаіць,
Зычыць мне жывым вярнуцца,
Значыць, трэба! Так і быць!

*1966*

## МОСЦІК

Пералескі радзімы,
Рэчка, ціхі аер.
Тых мясцін, што прайшлі мы,
Не пазнаеш цяпер.

Помню мосцік. Прыселі.
Што ні слова — агонь.
Пасля ў горад з аселіц
Перайшлі праз яго.

Мосцік той ля крыніцы
Я ніяк не міну,
Еду — мушу спыніцца
Хоць на пару мінут.

П'ю ваду, як прычасце,
Дарагая мая.
Тут свабоду і шчасце
Здабывалі ў баях.

*1957*

## ПАЭЗІЯ

Лясная даль —
сасоннікі,
Трава —
званочкі сінія.
На небе з ясным сонейкам
Ляжаць шляхі гусіныя.
Сарваны з плота весніцы,
І вецер вые ў коміне.
А ты, мая равесніца,
Пра радасць мне напомніла.
Што ж, гавары аб радасці,—
Калі дамоў хто вернецца.
І я наперад рад ісці,
Бо ў будучыню верыцца.
І ў полымя палезу я
Супроць любога ворага,
І ты са мной, паэзія,—
Вось гэта мне і дорага.
Ідзём насустрач сонейку,
Памераемся сілаю...
Сасоннікі, сасоннікі
З зялёнай парусінаю!

*1962*

## ПРЫЛЯЦЕЛІ СНЕГІРЫ

Я пайшоў бы ўслед за летам,
Але край застаўся тут,
Дзе я ласкаю сагрэты,
Дзе лугі вясной цвітуць.

У чырвоных фарбах восень.
Што ж, і гэта ёсць краса:
Паміж сосен — неба просінь,
Пах мядовы ў верасах.

Па сваіх іду дарожках,
Партызанскіх, дарагіх.
Вось знаёмая бярозка,
Ціхай рэчкі берагі.

Колькі тут крыві праліта!
Сенажаці і палі...
Наша воля, працавітасць
Зробяць шчасце на зямлі.

Вось і снег упаў абрусам,
А наўкол усё гарыць.
Па рабінавыя бусы
Прыляцелі снегіры.

*1964*

## ТРЫ САСНЫ

На мурамскай дарожцы
Стаялі тры сасны...
*З народнай песні*

Адкідаю прасла весніц —
І адразу не адзін:
Тры сасны з далёкай песні,
Не, не з песні, паглядзі!

Ля дарожкі, дзе імгліцца
Маладосці далячынь,
Адчуваю, якігліца
Спачывае на плячы.

Удыхаю водар смольны,
Пах ядлоўцавых кустоў.
Ў сэрца просіцца няўмольна
Рэха дзён трывожных зноў...

Мокнуць ногі ў росных травах.
Мне здаецца: вунь будан!..
Я ў тваёй цішы, застава,
Зноў стаю, бы партызан.

Хай бягуць няспынным цягам
Дні і ночы, нашы сны.
Паўтарыць хачу прысягу,
Вось і сведкі — тры сасны.

*1964*

## ЗМЯНІЎСЯ КРАЯВІД

Ізноў я там, дзе некалі
Быў луг з густой травой.
Ізноў я там, дзе ехалі
Па сцежцы баравой.

Прыемна вока цешылі,
Лясны пачаўшы строй,
Высокі дуб з алешынай,
Як родны брат з сястрой.

Яны ўжо не красуюцца,
Як партызанскі знак.
Дарога полем сунецца,
Якую не пазнаў.

Вайною вёскі знішчаны...
Ляглі сасонкі ў зруб...
З вузламі-карнявішчамі
Куды ж падзелі дуб?

Ручай ў траве не булькае —
Загналі пад зямлю.
Бацян старой бабулькаю
Паплёўся на раллю.

У вочы сыпле, колецца
Пясчаны сухавей.
Як чалавек, ваколіца
Галосіць і заве.

Міжволі хмуру бровы я,
Душой каб не крывіць.
Ў музеі пні бабровыя:
Змяніўся краявід.

*1966*

## ПАРТРЭТ ЛЕНІНА

Шумела прыцемкам лаза,
Трывожны быў той дзень.
І група нашых партызан
Ішла у вёску «эн».

І хоць крычала груганнё,
Сцяжынка іх вяла
Туды, дзе цьмяна аганёк
Бліщчаў сярод сяла.

Разведаць трэба, ёсць ці не
Фашысцкі тут сакрэт...
І раптам — ў хаце на сцяне...
Знаёмы ўсім партрэт.

Вядома, немцаў не было —
На варце правадыр.
А на чыгунцы за сялом
Звінелі правады.

Яны звінелі да пары.
І помсты час настаў,—
Падкінуў раптам моцны ўзрыў
Чыгуначны састаў...

І зноў лазовы мокры шум
І вецер твар сячэ.
Цяпло ж струменіць у душу
З прыжмураных вачэй.

*1972*

## ВЫСОКАЕ НЕБА

Яно заўжды было высокім.
Паміж дубоў хадзіў калісь
І слухаў, як зямныя сокі
Ўзнімалі волатаў увысь.

А хіба можна там пагрэцца,
Паклаўшы хмарку на плячо?
Мядовы водар плыў па грэчцы,
І лёгкі звон стаяў ад пчол...

Куды вядзеш мяне, сцяжына,
Цераз палі,
                    лугі,
                            лясы?
Цыганка мне наваражыла,
Што я «казённы» буду сын.

Ды не збылося.
Плуг сялянскі
Я памяняў на аўтамат,
Каб не прасіць у катаў ласкі
Для беларускіх мірных хат.

Вось паляжу ў густых асоках,
Убачу неба над сабой.
А неба — чыстае,
                               высока
Выцягвае пякучы боль.

*1982*

## ВОСЬ ТАКАЯ ПАРТЫЗАНКА

Ходзіць сонца па-над лесам.
Па бары ідзе Алеся.

Сосны стройныя, як мачты.
А што з намі, растлумач ты.

Ўсе замоўклі на паўслове
І вачамі постаць ловяць.

Не дзяўчына — штосьці болей:
Пахне лесам, пахне полем,

Прыгажосць, дабро і смеласць
І што ў сэрцы накіпела,

Ўсё асветлена тым ранкам...
Вось такая партызанка.

*1984*

## ЛЯСНЫ ПАКЛОН

Вятры сняжынкі ў полі гналі,
Працяжна вылі, бы знарок.
Навокал ноч. І мы не знал,
Што здарыцца, як ступім крок.

Засады ў полі не чакалі —
У полі змерзне подлы гад.
Мароз мацнее, шчокі паліць,
Драндвее, курчыцца нага.

Уперліся ў чыгункі насып —
Ці то ісці, ці то чакаць?
З фашыстам стрэліся сам-насам,
Ды нам не трэба языка...

Перамахнулі цераз рэйкі,
Як збоку кулямёт ажыў.
І працялі на момант нейкі
Хмызняк чырвоныя нажы.

І нібы свет згарнуў хтось жменяй
І сціснуў скроні да крыві.
Мы папаўзлі паміж каменняў
(Прымі падзяку, ледавік!).

І клікаў лес: хутчэй пад сховы,
Тут — цішыня, жывіцы пах...
Ізноў я той хлапчук вясковы,
Што быў заблытаўся ў снапах.

Дзяцінства ўсё, як на экране,
Пратупацела басаnож
І цеплынёй далёкіх раніц
Змякчае жудасную ноч.

Нарэшце лес — бярозы, елкі.
Пападалі мы зноў у снег.
На гэты раз спачыць каб толькі
На гэтай яве, нібы ў сне.

Але мароз даймае крута.
І нас разведчык вёў далей:
— Заманліва зайсці на хутар,
Ды штосьці голасна ў сяле.

Ішлі сцяжынкамі па лесе.
Асіннік голы, беразняк...
Высока вецер куралесіў,
Бы падаваў умоўны знак.

І мы пайшлі на знак той светлы,
Яліну ўбачылі якраз,
Яна махала нам прыветна,
Бы запрашала ў госці нас.

І, расхіліўшы тое голле,
Што дасягала да зямлі,
Нібыта ў дом, зайшлі павольна.
Душа, ад радасці замры!

Нас чатырох. А можа сорак
І пяцьдзесят змясціцца тут.
У завіруху тут не сорам
Адчуць лясную дабрату.

Трава пажухлая пад кронай,
Паклаў хтосьці сена ля ствала.
І ў гэтай хаце, век зялёнай,
Нібы зіма і не была.

Тут снег не сыпаўся на голаў
І дождж не капаў за каўнер.
Мог дакучаць часамі голад,
Ды ён не вечны — праміне.

Лічы, шанцуе партызану,
Бо пад рукамі дровы ёсць.
І хоць сюды ён трапіў напач,
Ўсё ж гаспадар ён, а не госць.

І ўміг агеньчык дзіўнай кветкай
Расцвіў на вогнішчы старым.
Спакойнай ночы вам, палеткі!
Спакойнай ночы, хутары!..

Да першае вайны, як пушча,
Тут красаваўся стройны лес.
Алень выходзіў з гэтай гушчы,
Ліса вадзілася, але

Пусціў пілу ў жывое цела —
Спраўляў грабежнік «новы лад».
І толькі елачка ўцалела,
Бо невялікая была.

Расла яна тут на прыволлі,
Увысь расла, расла ўшыркі.
І птушанят гайдалі ў голлі
Вясной і летам вецяркі.

І вось цяпер у час суровы
Народных мсціўцаў, як дзяцей,
Прымае шчыра ў свае сховы,
Пакуль фашыстаў згіне цень...

Прайшло нямала мірных вёснаў,
Калі дакладна,— трыццаць пяць.
Жывём у краі мы дзівосным:
Спакойна людзі нашы спяць.

Але нічога не забыта,
Ні тыя зверствы, ні разбой.
Усё запісана, нібыта
Застыла жудаснай разьбой.

І хоць гады ляцяць імгненна,
Бацькамі сталі ўжо сыны,
Мы знаем кожнага пайменна,
Хто не вярнуўся з той вайны.

Як бура снежная завые
І замятае ўсе сляды,
Перад вачамі, як жывыя,
Ідуць таварышы туды.

Дзе некалі стаяла елка —
Гасцінны дом для партызан,
Дым лезе ў нос сасновай смолкай,
Як трыццаць год таму назад.

Дыміць касцёр, як кепскі бровар
Ці смалакурня за сялом.
Стаіць Валодзя, хмурыць бровы,
Збірае Міця буралом...

Зрывала ліст апошні восень
З асін прыглушаных, з бяроз,
Калі ізноў мне давялося
Прыпомніць тое, што збярог.

Даўно няма ўжо той яліны.
Мо скрыпкай стала ў скрыпача,
Каб граць «Па ўзгорках і далінах»,
Каб жар душэўны не зачах.

Стаю на гэтым самым месцы,
І нешта сэрца запякло.
Я не магу на пень той сесці.
Паклон табе, лясны паклон!

*1979*

## ПАЛЕСКАЯ БЕТОНКА

Разгарнулася тонка,
Дастае далягляд.
Эх, дарога-бетонка,
Ты стралой пралягла

Праз балота, па лесе,
Дзе блукаў толькі лось,
Ажывіла Палессе
І лясное сяло.

І бягуць праз асіннік
«Жыгулі», «Масквічы».
Вецер бег не асіліць,
Хоць крычы, хоць свішчы.

Восень жоўтая рэхам
Прысядала ў канцы.
Палюбуйся з арэхаў:
Бах ды бах лушчанцы.

Пацягнула знаёмым
Праз бензінны нагар —
Халадком вадаёмаў
І чым пах мой наган...

*1980*

## ГРОМ ВЕСНАВЫ

Промнямі ярка-чырвонымі
Дзень свой паход завяршыў.
Цені зліваюцца з кронамі,
Водбліск — з парывам душы.

Мой жа паход не завершаны
Па акупанцкіх тылах.
Скажуць бярозы, алешыны,
Дзе наша помста была.

Дойдзем з баямі і гімнамі
Да пераможнага дня!
Будуць страчаць неабдымныя
Поле, густы маладняк.

Дзень Перамогі загрукае
Гулка, як гром веснавы.
Гэта і будзе зарукаю
Вечнага шчасця жывых.

*1984*

## ХАДЗІЛІ МЫ ПАХОДАМІ...

Далёка ўжо за намі
Той гераічны час:
Былі мы партызанамі,
І песні ёсць пра нас.

Вітацца з паліцаямі
Ніхто не будзе, не!
За кроў ім абяцалі мы
Гарачых куль свінец.

Хоць па балоце плёскалі,
Ды не забыць сустрэч,
Калі ішлі мы вёскамі,
Вінтоўкі зняўшы з плеч.

Выносіць дзядзька бульбачку,
А цётка — малако.
— Нішто,— кажу спрабуючы,
І смех стаіць наўкол.

— Засмажыць трэба курыцу —
Не знойдзеш на сяле.
Мо самасад закурыце,
Каб сэрцу весялей?

І сумна тут, і радасна,
І ты нібыта ў сне.
Вясна занадта ранняя
Апошні гоніць снег.

Нішто не забываецца,
Калі яно ў душы:

І сакавік, і раніца,
Задымленая шыр.

Здалёк не раз мы бачылі:
Ўзыходзіць сонца там,
Над шэрай хатай матчынай —
І сум, і яснага.

За дым калматы з коміна,
За ночку давідна,
За жытнюю саломіну
Аддаў бы ўсё да дна!

Такія яны блізкія,
Што ворагу не быць!
Агнём смяротным бліскаем
І будзем біць і біць!

Любою непагодаю
Ляцелі ўвысь масты.
Хадзілі мы паходамі,
І не забыць аб тым.

І добра. Сцежкі росныя
Завуць у тую даль,
Дзе зрэнкі паравозныя
Гасіла наша сталь.

Зноў са старымі ранамі
З-за вішнякоў і сліў
Ў паход выходзім рана мы,
Ды сцежкі зараслі.

Калісь былі прагаліны,—
Там лес расце цяпер.
Дзесь у зямлянцы спаленай
Ржавее ПТР.

Над нетрамі ласінымі
Дугу вясёлка гне.
На полі ж вочы сінія
Расплюшчыў даўгунец.

Былі тут лозы ніцыя,
Брусні́чная ікра.
Цяпер шуміць пшаніцаю
Мой беларускі край.

Гляджу на непаўторнае:
Такія берагі!
Крывёй шляхі пратораны,
Каб волю берaглі.

*1976*

## УСПАМІНЫ

Успаміны, успаміны,
Вы прыйшлі з якіх вякоў?
Не адкінуць, не пакінуць —
Абступілі навакол.

...Выплывае з добрай ласкі
Хутар (нервы прыбяры).
Не кулацкі — партызанскі,
Дзе збіраліся сябры.

Яблыні цвілі і грушы
Пад лясны, ледзь чутны шум.
Патэфонная «Кацюша»
Развярэджвала душу.

Цягнікі ляцелі прахам
І завальвалі адхон,
Чорным долам, чорным страхам
Быў для немцаў перагон.

Гаспадар не йдзе на хутар —
Ні стары, ні малады,
Дзе туман, як дым, ахутаў
І падзеі, і гады.

*1979*

## РОДНАМУ КРАЮ

Усё тут перажыта:
Вайна і звон акоў.
На полі —
жыта,
жыта
З вачамі васількоў.

О край бацькоў,
пацеш ты,
Дай кропель дажджавых,
Дазволь па роднай сцежцы
Ісці, пакуль жывы.

Кастрычнікам ці маем,
Як сонца, грэй, свяці.
А ўсё,
што ў сэрцы маю,
Табе я прысвяціў.

*1977*

## ТУТ ДУШОЮ МАЛАДЗЕЮ

Маладое пакаленне
Хвоек і бяроз,
Не вышэй, чым па калена...
Як я іх бярог!

Асцярожна крочыў ноччу:
Хай жывуць, растуць.
Горай днём паўзці, не крочыць
Цэлую вярсту.

Не ад страху гнуўся долу
Перад немчуром.
Дапаўзу да рэек з толам —
Будзе моцны гром.

Вёска родная пачуе,
Што не спіць народ.
Больш нічога не хачу я —
Змыць фашысцкі зброд...

Зноў я тут, бярозы, сосны,
Мой любімы сад!
Вам ужо за сорак вёснаў,
Мне — за семдзесят.

Ды плыве з нябёс надзея —
Сонца, сінява.
Тут душою маладзею,
Гледзячы на вас.

Дай, сасонка, лапку тую,
Што прыгнуў калісь,

Я пагладжу, пацалую,
Злёгеньку ўкалі.

Мы з табой сябры навекі
(Шмат такіх у нас).
Мне слязілася на вейкі
Родная сасна.

*1984*

½4 Зак. 613

## ДЗІВОСНЫ СВЕТ

Здаецца, вельмі проста
Дастаць рукой блакіт.
Ступіў за тую ростань —
Дзівосны свет такі:

Край неба адыходзіць
І кліча ўсё далей,
Дзе лес шуміць на ўсходзе,
Гамоніць весялей.

Было такое лета
У дзяцінстве. І не раз
Я рваўся на край свету —
За вёску са двара...

А потым, калі вырас,
Пазнаў цану жыцця.
Чакаў вясною вырай,
Ці птушкі не ляцяць

У родны край любімы
Што порахам прапах,
Што засланяўся дымам,
Гарэў, ды не прапаў...

І дачакаўся змены
Пасля ліхіх гадзін.
Унучак гільзу ў жмені
Трымае: — Паглядзі!

Гарэзны непаседа
У пяску начысціў медзь.
Не ведае, што дзеда
Мінула з гільзы смерць.

*1977*

## ПЕСЕННЫ КРАЙ

Праходзяць леты, зімы,
А ў памяці — сляды.
Ці ж мог бы без Радзімы
Пражыць усе гады,

Якія лёс прызначыў
Як беззваротны дар?
Былі, былі і ўдачы,
Ды адляцелі ўдаль.

Таму і цягнуць далі,
Зялёны дзе лясок
У шышках, бы ў медалях,
Пад сонца калясом.

Малюся за ільготы,
Што лес прываражыў.
Сярод яловых готык
Заўжды я не чужы.

Калі на сэрцы млосна,
Каб смутак не прыліп,
Ўдыхаю водар соснаў
І чую сіл прыліў.

На партызанскіх сцежках
Не знойдзеце залом —
Квітнее наша ўсмешка
Ўсім ворагам назло.

І не крадуся з лесу
На поле, як калісь,
Рассоўваю завесу —
Жывы, зялёны ліст.

А поле — колас жытні
Да самае шашы.
Далей — паркаль блакітны:
Цвіце льняная шыр.

Яе ніхто не засціць,
Не стопча нам траву.
Ізноў убачым шчасце —
Камбайны паплывуць.

Як камбайнёр рукою
Вазьме штурвал ямчэй,—
То ў кузаў аж ракою
Пшаніца пацячэ.

Бо што без хлеба значыць
Рабочы і паэт?
Хто з боханам гарачым,
Таму — шырокі свет.

Як добра: песня поруч
Са мной ідзе ў нагу.
Ёй адгукнецца з бору
Сасновы перагуд.

І радасць славіць будзе
Вясну, птушыны грай...
А як засну — разбудзіш,
О песенны мой край!

*1977*

## НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ

На ўсё жыццё хапіла мне вайны.
Яна не толькі вёскі спапяліла,
На грудзі ціснула агнём двайным:
Гарачым полымем і едкім пылам.

Пагоркі з'ехалі ў глыбокі дол,
Што вырылі снарадныя разрывы.
Сівелі дзеці, як гарэў іх дом,
Чарнелі маці ў роспачы жахлівай.

Зжываю век, а ў сэрцы ўсё пячэ,
Хоць свежасць напаўняе зорны вечар...
Дзіцячы смех — і робіцца лягчэй.
І ўнучку я падсаджваю на плечы.

Якая радасць, што на свет прыйшла!
Як цуд зямлі, нясу яе да зорак.
Глядзі: іскрыцца-ззяе Млечны Шлях —
Там касманаўты нашы у дазоры.

*1984*

## АБЕЛІСКІ

Плыве спакой здалёк і зблізку:
Прыціхлы бор, суцішны крок.
І толькі зоркі з абеліскаў
Узрушаць мне душу і кроў.

Не патухае ў сэрцы рана
З тае далёкае пары,
Калі ўзарвалі бомбы ранак
І смех вясёлай дзетвары.

І вось стаю, былое ўпарта
Вяртае да тых дзён мяне.
І не сысці мне з мірнай варты,
Пакуль трывога не міне.

*1978*

## ПЕРАМОГА

Яна адтуль ішла, дзе сонца
Ўставала з мужнымі людзьмі.
Яна ў грудзях, як сок у гронцы,
Штодзень брыняла, кожны міг.

*1971*

## МІРНАЯ РАНІЦА

Ах, нашто гэты свіст рэактыўны
Раніць душу ад самага рання?
Мне хапіла б і рэк пераліўных,
Што ўліваюць спакой, а не раняць.

Мяне бор векавы ў госці кліча,
Дзе страха на зямлянцы апала,
І на полі сасна, нібы клічнік,
Уцалелы ад штурму, напалму.

Там я свой, да знямогі аддany,
Нават лось не баіцца, прыходзіць.
Толькі дзесь за далёкім курганам
Чую тупат — я зноў у паходзе...

Сёння вёску маю дарагую
Засланяюць ад чорнай напасці.
І, скажыце, чаму не магу я
На спакойную думку напасці?

*1976*

## МЯНЕ ЗЯМЛЯНКА БЕРАГЛА

Я да зімы ў бары прывык,
Да клімату цвярозага.
А тут з'явіўся сакавік
Над стараной бярозавай.

І хоць зіма яшчэ ляжыць,
Нібы бяльмо, навокала,
Рытмічна звоняць капяжы
З сасонніку высокага.

І так прыемна бачыць, мець
Зеніт вясенняй просіні,
Бярозаў бель і соснаў медзь,
Што мерзлі з шэрай восені.

Мяне ж зямлянка берагла —
Падзяка ёй сардэчная!
Сцяжынка, бачу, пралягла
Цераз бары зарэчныя...

*1986*

## РАЗГАРНУЛАСЯ ЛЕТА

І раскрылася неба,
Нібы зонт-парашут.
Ні вады, ані хлеба
Не хачу, не прашу.

Разгарнулася лета
І калоссем шасціць.
Праз аўсяны палетак
Трэба мне перайсці.

І далей хмызнякамі
Аж да самай шашы.
За шашою ёсць камень,
Там сустрэча ў цішы.

А сустрэча, як песня,
Пад зялёны той шум
Можа весткай балеснай
Растрывожыць душу.

...Там сям'ю расстралялі
Нізашто ніпрашто...
Эх вы, родныя далі,
Неабдымны прастор!

...Вёску з дымам пусцілі,
Заграблі ўсё дабро...
Дай, Радзіма, мне сілы,
Болей мужных сяброў!

Дай мне гнеў чалавечы
Супраць дзікіх прыблуд!

Ў падыходзячы вечар
Я засаду зраблю.

А пакуль — сонца паліць.
Дзе ж той камень, шаша?
І кладу я свой палец
На кручок ППШ.

*1986*

## СЛЯДЫ

Сэрцу блізкія прасторы —
Поле, ельнік малады!
Памяць вас не раз паўторыць,
Дзе губляў свае сляды.

Партызану добра летам:
Скінуў поезд, тут жа знік.
У жыце, дымцы фіялетнай
Паспрабуй знайдзі, вазьмі...

Родны край — заўсёды родны,
Без яго ты — сірата.
Тыя дні — альбом прыроды —
Так і хочацца гартаць.

Ды не вернеш маладосці,
Што шыпшынай адцвіла.
На прастор радзімы ў госці
Мяне восень прывяла.

Зноў іду па кладцы тонкай,
Там, дзе немец даў нырца.
Можа, ўспомніць хто з патомкаў,
Што прайшоў я да канца.

*1985*

## ПЕРАМОГА

Я не мог памыліцца:
Ты была — у душы.
Вось іду памаліцца
Ў неабдымную шыр.

І цяпер на паперы
Праступае мой лёс.
Вось той сонечны бераг,
Перазвон ціхіх лоз.

Вось слядоў тых трасіры,
Што ляглі на пяску.
Ласкі мы не прасілі —
Па нас білі з ляску.

Дні бягуць. А я помню,
Як закончыўся бой...
Месяц жоўтую поўню
Пакаціў цераз бор.

*1985*

## ТО БЫЛО НЕ НА ПРАСПЕКЦЕ

То было не на праспекце —
На дарожцы на лясной.
Шалясцела пушча веццем,
Навявала мары сноў.

І цяпер перад вачыма
З аўтаматам на плячы
Чарнабровая дзяўчына —
Час не сцёр яе нічым.

Ледзь прыкметны пырск усмешкі,
Нібы спелы лушчанец
Пакаціўся ў мох са сцежкі,
Не, не ў мох, а ў сэрца мне.

І лаўлю я пошум пушчы
Ад мінулае вайны.
І прыносіць дзень відушчы
Ўцеху, сэрцу каб не ныць.

*1985*

## ПРА САВЕЦКІ СКОРЫ ПОЕЗД

Гэта верш, а не аповесць,
Недапісаны лісток
Пра савецкі скоры поезд
«Беласток — Ўладзівасток».

Я чакаў яго, як сонца,
Хваляваўся нездарма:
Сонца бегла па старонцы,
А яго няма й няма...

Чую выбухі за лесам,
Ў ясным небе бачу дым...
Ты, браток, адзін не лезь там
З палкім сэрцам, маладым.

А пакуль бяжы пад сховы,
Дзе сышліся ноч і дзень.
Ў лес таварыш твой вясковы
З дапамогаю прыйдзе.

Разбамбіў фашыст вагоны
(Ён жа гад, не чалавек).
Будзем фаўстам ягоным
Біць па воўчай галаве...

Затрымае бег шалёны
Кожны зручны перагон:
Папярхнуцца эшалоны
Партызанскім «пірагом».

Поезд наш прыйдзе з Растова,
Са Свярдлоўска ці Чыты.

Стрэнем працай, песняй новай,
Дажылі каб я і ты.

На адноўленым улонні
Зацвітуць палі, сады.
І над Шчарай родны Слонім
Будзе вечна маладым.

*1985*

## УСПАМІН ДАЛЁКІ

Успамін далёкі
Зноў па сэрцы рэжа.
А блакіт высокі
Кліча ў безбярэжжа.

Ясная пагода —
Ёй і разгарацца!
Я прыбыў з паходаў
Да жыцця, да працы...

Не было сустрэчы
Пасля ліхалецця:
Ўсё фашыст зняверчыў,
Расцягнуў па свеце...

Бусел стаў пад вязам,
Дапамогі просіць.
Вось крыло падвяжам,
Зажыве — і ў просінь!

Вандраваць не пойдзем:
Хто ж траву пакосіць?
Прытамлюся ў поўдзень —
Лягу на пакосы.

Калі сон зачасціць,
Кнігаўка разбудзіць.
А вясна ды шчасце
Не адзін раз будзе.

*1986*

## АД ЧАГО ДРЫЖАЦЬ АСІНЫ?

Цёплы, сонечны і сіні
Ранак. Вецер нат не дзьме.
Ад чаго дрыжаць асіны,
Не магу я зразумець.

Вось стаяць сасна, бяроза,
Ну і елка, як страла,
Што нацэлена сур'ёзна
Ў даль касмічную страляць.

Ні адна язык не вострыць,
Хоць прывабныя сабой,
Бы сапраўдныя медсёстры,
Што гатовы з намі ў бой.

Ну і мне спакой патрэбны
На зыходным рубяжы...
Жаўрука званочак срэбны
Ў вышыні будзе кружыць.

*1985*

## УЗНІМАЎСЯ РАНІЦАЙ ТУМАН

Цяпер ужо з далёкіх дзён,
Ваенных дзён і працы,
Пульсуе ў сэрцы «Ціхі Дон»,
Нібы струмень гарачы.

Сярод няхітрага дабра
(Яшчэ дымела вёска)
Вялізны том я падабраў
З крывавую палоскай.

Ўзнімаўся раніцай туман,
А сонца — яшчэ вышай.
Чытаў я прыхапкам раман,
Калі было заціша.

Ды не сціхала барацьба,
Яна — салдат і донар...
Перад вачамі — ўсё Кубань
З блакітным ціхім Донам.

Здавалася, што п'ю настой
З лугоў данское поймы.
І том бадзёрыў мне настрой,
Ляжаў каля абоймы.

...Жніво. Гарачая пара.
Шуміць пшаніца, проса.
Хачу наведаць гэты край,
Калі мяне запросяць.

*1986*



Затужыла пры лузе бяроза,
Счуўшы жаласны крык жураўлёў.
І застыў у кустах вербалозу
Вецярок, прыляцеўшы з палёў.

І бясконца плыла павуціна,
За былінкі чаплялася ніць.
І здалося, зусім беспрычынна
Пачыналі ў цымбалы званіць.

Ціха так чараты зазванілі,
Калі чоўнам парушыў я гладзь.
Сярод многіх затокаў і звілін
Пуцявіна мая пралягла.

Яшчэ змалку зрадніўся з прыродай,
Па-сяброўску ў разведку вядзе.
Пачынаецца дзень без прыгодаў,
Проста восеньскі сонечны дзень.

*1986*

## АКРАЕЦ ХЛЕБА

Ў акно зірнула сонца краем
З глыбокага прадоння неба,
Прамені ўпалі на акраец
Мукой падсыпанага хлеба.
І ажылі малюнкі тыя,
Крывой сцяжынкай што прабеглі:
Два каласочкі залатыя
Прайшлі праз спаленыя цэглы.
Зярняткі шчуплыя, заморкі.
Радком садзіў іх на загоне,
І хлеб хай будзе нават горкі;
А смерць на той свет не загоніць.
Пайшло дзяцінства за вароты.
А дзень халодны і бясхлебны
Дзесь дагараў за паваротам,
Як згублены і непатрэбны.
Малюнак сумны: даль гарэла,
Хаціны ў кветкавых гірляндах.
Што не згарэла — азвярэлы
Фашыст цягнуў да фатэрлянду.
Прыпомніў я адну хвілінку:
Маленькіх бульбай корміць маці.
— Сынкі, частуйцеся,— скарынку
Нам падае... і пуста ў хаце.
Ад голаду ў грудзях заныла.
Гаворым жа: «Зайшлі напіцца».
Як не за Шчарай, а за Нілам
Пустынным поўднем ходзім быццам.
Прабач, матуля, за адмову.
Дзеля дзяцей хлусілі ўчора...
А сёння хлеб я слаўлю новы,—
Няхай не вернецца больш гора!

*1985*

## СЯСТРЫЧКА І БРАТ

Jadą, jadę dzieci drogą...
Siostrzyczka i brat,
I nadziwić się nie mogą,
Jaki piękny świat!

*М. Канапніцкая*

Ледзь гул машын пачула,
Што ўехалі ў сяло,
Іх маці ў печ вапхнула,
Каб ў хаце не было.

Ўламаўся гад у хату
І з крыкам: «Партызан!»
Чаргою з аўтамата
Жанчыну пранізаў.

Ўсю ноч ляжалі ў печы,
Знямелі да касцей.
А сонца ўжо трапеча,
Над вёскаю расце.

І выпаўз брат з сястрычкай —
Ні мёртвы, ні жывы.
І верабей з сінічкай
Ўцякалі ад крыві.

І ў луг праз агароды
Шмыгнулі напрасткі.
А свет — прыгожы, родны
І... жудасны такі.

Без спынку па матулі
Ўсярэдзіне баліць.
Хто ж да грудзей прытуліць,
Зялёны луг, палі?

За што?! Няма адказу.
Няма. Павінен быць!
З шасці гадоў адразу —
На сцежку барацьбы...

Хмурынкі з тонкай воўны
Плывуць сабе, плывуць.
І свет такі цудоўны,
Аж кружыць галаву.

*1985*

5 Зак. 613

## ПЛАЧ ЖАЛЕЙКІ

Дзень гарачы. Ясны дзень.
Жніўны поўдзень.
Не стрымаюць нас нідзе —
Ўсюды пройдзем.

Нас прыгорне родны лес —
Даль лясная.
Хлебаробы на сяле
Нас пазнаюць.

Думку думаў партызан
Перад боем.
Ў сэрца матчына сляза
Ўпала болем:

— Ой, чакаю я здалёк
Дні і ночы.
Прыязджай жа, Васілёк,
Васілёчак...

А ў даліне — перабор —
Плач жалейкі.
Адгукнуўся сівы бор
Сумам нейкім.

І паплыў удаль матыў
Песні жніўнай
Над палеткам залатым
Пераліўна.

Выліў скаргу ўсю да дна
Люд прыгонны,
І дайшла яна да нас
На загоны.

І трывожыць і заве
Ў бой на катаў —
Не схавацца галаве
Ў трох накатах...

Перамога адгула
Ў завірусе.
І да роднага вугла
Ён вярнуўся.

І за плугам ён пайшоў...
Кінуў лейцы,
Ўчуўшы: грае пастушок
На жалейцы...

І зноў сэрца, як тады,
Затраслося,
Як шугаў злавесны дым
Над калоссем.

І дагэтуль сніць пажар
(Столькі ж вёснаў!)
І камбайнам не пажаў
Плач жалосны.

*1986*

## СУСТРЭЧЫ

Вятры як шугалі — шугаюць,
Здзіраюць пясок з пагорка
І водар чаромхавы з гаю
Даносяць: ён пахне горка.

Сасна ўсё стаіць як стаяла,
Скрануцца з гары не можа
Туды, дзе вясенпім валам
Шуміць у даліне збожжа.

А можа, асколак ад міны
Рэжа нутро ёй употай,
Бо рана смыліць штохвіліны,
Жывічнай гарыць пазалотай?

Затое сюды на сустрэчу
Нябачнаю цягне сілай
Таго, што ў ваенны той вечар,
Як маці, сасна заслапіла.

І нельга забыць той часіны
І з памяці вёснаў не сцерці...
А дзень дадае новай сілы,
Раны рубцуе на сэрцы.

*1985*

## ПЕСНЯ НЕДАПЕТАЯ...

Эй, старонка мілая,
Дзён тваіх паэт я...
Дрэўца ты пахілае,
Песня недапетая...
*Міхась Васілёк*

На зямлі лясістай, роўнай
Хто нас будзе сустракаць?
Толькі вёсачка Баброўня
Дарагога Васілька.

Там ён сеяў жыта ў полі,
А найболей — добрых слоў.
Збожжа ціснулася з болем,
Слова дружна прарасло.

Тыя словы, тыя песні
Падхапіў працоўны люд,
Бо яны свабоду неслі
На пакутную зямлю.

Я ляцеў туды, бы ў космас,
Праз усё сваё жыццё.
Распускала сонца косы,
Але вецер перацёр...

І сустрэліся мы позна
(Ліхадзей на край налёг).
Бралі зброю мы без позваў,
Каб не крыўдзіцца на лёс.

Колькі крочыў я праз жыта,
Васілька ўсё сустракаў!
Памяць сэрца зберажы ты,
Саламяная страха!

Паўстагоддзя йшоў у сені
Да паэта Васілька.
Там з пустэчы дзень асенні
У бяздонне уцякаў.

Не ўцячэш!
Дагоніць песня,
Недапетая за век.
І на новым напрадвесні
Ўдаль паэтаў пазаве.

*1986*

## У ГУТА-МІХАЛІНЕ

*Памяці*
*Іосіфа Паўлавіча Урбановіча*

Боль ад страт не пагасіш нічым,
Хоць і будзе завейна, студзёна.
Я прыходжу сюды не спачыць,
А паслухаць лясную штодзённасць.

Тут аднолькава — ліпень ці май,—
Неба стынь з фіялетавай сталі.
Мне здаецца, тут птушак няма.
Абеліскі маўкліва пасталі.

Перад паўшымі вечна ў даўгу,
Дзень сустрэўшы свабодны і новы.
Але ж хіба забыць я магу,
Што ляжыць тут Язэп Урбановіч?!

Яшчэ ў школе пуцёўку мне даў,
Навучыў за свабоду змагацца...
Яркім сонцам гарэць будзе даль,
Дзе кіпіць наша вольная праца.

*1986*

## СЦЕЖКІ ЮНАЦТВА

Мякка між пальцаў калоссе цячэ
Шэра-зялёным патокам.
Хочацца ў вёску вярнуцца яшчэ,
Ў дні маладосці далёкай.

Сніцца мне хата (якое няма),
Нібы жывая істота.
Ў госці дадому прыходжу на май
У нерашучасці: што там?

Вуліца вырасла (дзе не было)
З двухпавярховых катэджаў.
Водарам цягне з палёў і балот,—
Сцежкі юнацтва агледжу.

*1985*

## ЖЫВАЯ КРЫНІЦА

Дай напіцца з жывое крыніцы,
Што цячэ з-пад высокай гары!
Нізка небу свайму пакланіцца,
Што зарою на ўсходзе гарыць!

Гэта — цуд дарагі, першабытны.
Ні купіць, ні прадаць тую даль.
За яе мы хадзілі на бітвы
І маглі толькі сэрца аддаць.

*1986*

## НА РОДНЫХ ЗАГОНАХ

Разгарэўся дзень, а я стаю.
Я стаю на тым пагорку сонным,
Дзе калісьці маладосць сваю
Праз зялёны перавёў сасоннік.

Палавее сонечная даль
Пад гарачым, спрасаваным небам.
Хаты роднай бацькавай шкада,
Што карміла лебядой без хлеба.

Тут я рос, і шчасце спазнаваў,
І пайшоў у свет занадта вузкі.
Ах, як пахла мята і трава
Пры дарогах вёсак беларускіх!

Тая хата урасла ў зямлю,
Праваліласяя страха на хаце...
Родны край, мо скажуць, не люблю
І забыў пра бацьку і пра маці?

Не, таварышы, нічога не забыў,
Калі гэта слабасць, то адкіну.
Мне б прайсці праз жытнія гарбы
І крануць касою канюшыну.

Я хачу адчуць, як край цвіце
Пасля цяжкай, страшнае навалы,
Слухаць песні звонкія дзяцей,
Як і сорак год таму, бывала.

Беларусь, заўжды жыву табой,
Багацей і сілы загартоўвай.
І калі труба пакліча ў бой,
Зноў з'яўлюся і скажу: «Гатовы!»

*1985*

## ПА ДАРОГАХ ВАЙНЫ

Хоць не ўсе я абышоў мясціны,
Беларусь жа пазнаваў па тым,
Як гарэлі родныя хаціны,
Лез туман на золку праз платы.

Халадзілі гліняныя печы
І душу, і цела — толькі глянь.
Неймаверным цяжарам на плечы,
Ўся вайна на плечы налягла.

І не плакалі малыя дзеці,—
Маці несла іх ў далёкі бор,
І не знала, што рабіць, дзе дзець іх,
І пыталася: ці ёсць на свеце бог?

І калі гарэлі раптам танкі
І крыжы на танках,— то не цуд,
То не бог пускаў на іх маланкі,
А з разбітых хатаў мужны люд.

І святлелі вочы, твар жанчыны,
Што дзяцей туліла да грудзей...
Туманы ўзнімаліся з лагчыны,
І на ўсходзе пачынаўся дзень.

...Па знаёмай зноў іду мясціне:
З белай цэглы вёска — Беларусь.
Бабка выйшла на асфальт-гасцінец,
Адпраўляла ў школу дзетвару.

Затрымала крок ля абеліска,
Скінула набеглую слязу.
А мо вецер мокры ў вочы пырскаў,
Што гайдаў каліну і лазу?

*1985*

# ТЫ ЖЫВЕШ ПАД НЕБАМ СІНІМ

Мяне маці тут нарадзіла,
Як сасонку ў бары пасадзіла.
*Д. Бічэль-Загнетава*

Сорак год вярэдзіць раны
Пасля цяжкае вайны:
«Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!»

Плыла песня па-над вёскай
Ад начлежнага кастра.
Ты — сасонка,
Ты — бярозка,
Наша родная сястра.

Ты не знала гэтай песні
Ў тыя грозныя гады,
Бо малую ў бор прынеслі
Ад навалы, ад бяды.

Ты жывеш ў такой краіне,
Там, «Дзе ходзяць басанож».
Ты жывеш пад небам сінім —
Гэту сінь яшчэ памнож!

Ты ж — бярозка,
Ты ж — сасонка
З беларускай глыбіні.
Мо таму і песняй звонкай
У душы маёй звініш.

*1985*

## ГЭТА НОВЫ ГОД

Вось і снег.
Кусты
І верас
Гнуцца ад зімы.
Але ў будучыню верым,
Як заўсёды, мы.

Нам не страшны
Вецер колкі,—
Хай сабе мяцэ.
Неадкладна
Ў лес па ёлкі
Для малых дзяцей!

Ім патрэбны
Ранак светлы,
Смех
І пах лясны.
І зялёныя прыкметы
Будучай вясны.

Рушым працу
Дружным валам!
(Гэта ж Новы год!)
Сэрца помніць:
Калыхала
Маладосць паход.

*1985*

## ЗМЕСТ

### РАСЦВІТАЕ Ў ВЕСЦЫ БЭЗ



### ХАДЗІЛІ МЫ ПАХОДАМІ...

## НА РОДНЫХ ПРАСТОРАХ

**Іверс А.**

I 25 Я пайшоў бы ўслед за летам...: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1987.—87 с.: іл.

Аўтар — былы падпольшчык і партызан — уваскрашае слаўныя старонкі барацьбы беларускага народа супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Лірычны герой кнігі — наш сучаснік, чалавек мужны і адважны, патрыёт і інтэрнацыяналіст.

I $\frac{4702120200-152}{М 302(03)-87}$ БЗ 211-87 ББК 84 Бел 7

---

*Анатолий Иверс*

(Миско Иван Дорофеевич)

**Я ПОШЕЛ БЫ ВСЛЕД ЗА ЛЕТОМ...**

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Хв. Дз. Жычка. Мастак В. У. Альшэўскі. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар І. М. Паланейчык.

ІБ № 3020

Здадзена ў набор 20.07.87. Падп. да друку 02.10.87. АТ 07695. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,22. Ум. фарб.-адб. 3,37. Ул.-выд. арк. 2,51. Тыраж 3500 экз. Зак. 613. Цана 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.